# 1—7 сакавіка ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

## ТЭАТРЫ

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**

*2 сакавіка* — Ц.Пуні "Эсмеральда", балет у трох дзеях.

*3 сакавіка* — А.Пятроў "Сотворение мира", балет у дзвюх дзеях.

*5 сакавіка* — А.Хачатуран "Спартак", балет у трох дзеях.

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**

*4 сакавіка* — Дж.Пучыні "Чио-Чио-Сан", опера ў трох дзеях.

*6 сакавіка* — "Любимым женщинам", святочны канцэрт.

*7 сакавіка* — А.Будзько "Пітэр Пэн", мюзікл у дзвюх дзеях.

**Беларускі дзяржаўны музычны тэатр**

*4 сакавіка* — І.Штраус "Летучая мышь", аперэта ў трох дзеях.

*7 сакавіка* — І.Кальман "Королева Чардаша", аперэта ў трох дзеях.

**Тэатр юнага гледача**

*3 сакавіка* — М.Лявончык, Н.Башава "Последняя дуэль", спектакль у адной дзеі.

*7 сакавіка* — Э.Портар "Паліяна", спектакль у трох дзеях.

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**

*4 сакавіка* — Б.Шоу "Пигмалион", раман у дзвюх дзеях.

*5 сакавіка* — І.Б.Зінгер "Тойбеле и ее демон", трагікамедыя.

*6 сакавіка* — А.Астроўскі "Поздняя любовь", меладрама.

*7 сакавіка* — Лопэ дэ Вэга "Хитроумная влюбленная", камедыя.

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**

*2 сакавіка* — А.Курэйчык "Понцій Пілат", гістарычная драма.

*7 сакавіка* — З.Сагалаў "Палёты з анёлам".

**Тэатр сатыры і гумару "Хрыстафор"**

*7 сакавіка* — "От роддома до заката", анекдот-праграма.

*8 сакавіка* — "Избранное", лепшыя нумары з розных праграм.

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М.Горкага**

*2 сакавіка* — Ж.-Ф.Рэньяр "Единственный наследник", камедыя.

*3 сакавіка* — сустрэча з драматургам, аўтарам спектакля "Люти" А.Дударавым.

*4 сакавіка* — І.Губач "Адъютант-Ша Его Величества", камедыя.

*5 сакавіка* — Дж.Маротта, Б.Ранданэ "Утешитель вдов", фарс па-італьянску.

*6 сакавіка* — Д.Фо, Ф.Рамэ "Свободный брак", камедыя.

*7 сакавіка* — "Амфитрион", сцэны з жыцця людзей і Багоў.

## АНОНС!

*12 сакавіка* -- у Палацы Рэспублікі — **"Новые русские бабки".**

*Даведкі і заказ білетаў па тэл.: 223-31-82, 227-77-65.*




ЯК ГЭТА БЫЛО...

## *Святлана ПАРАМЫГІНА:*

# «Адну з першых алімпійскіх узнагарод у гісторыі суверэннай Беларусі я заваявала, выступачы на старых лыжах і страляючы з вінтоўкі, якая замярзала на марозе...»

*Роўна дзесяць гадоў таму беларускія спартсмены ўпершыню самастойнай камандай ўдзельнічалі ў Алімпійскіх гульнях, якія праходзілі ў лютым 1994 года ў нарвежскім Ліліхамеры.*

Нагадаем, што на XVII Алімпійскіх гульнях беларусы заваявалі дзве сярэбраныя ўзнагароды. Наш славуты зямляк- канькабежац, шасціразовы чэмпіён свету **Ігар Жалязоўскі** заваяваў медаль на дыстанцыі 1000 метраў, а біятланістка **Святлана Парамыгіна** ўзяла серабро ў гонцы на 7,5 кіламетраў, прайграўшы канадцы Бедар толькі адну сотую секунды.

Сёння, праз дзесяць гадоў, Святлана ўспамінае, як яе перапаўнялі станоўчыя эмоцыі ад таго, што яна выступала за зборную незалежнай Беларусі: *"Раней я выступала за СССР. Гэта была вялікая краіна. Нас ведаў увесь свет. А вось Беларусь ніхто не ведаў, і нам належала даказаць і паказаць усяму свету, што гэтая дзяржава таксама можа годна прадстаўляць свой спорт на міжнароднай арэне".*

Дарэчы, як узгадвае першы шэф Алімпійскай місіі ад Беларусі **Леанід Храмянкоў**, на той час у беларускай зборнай былі пэўныя праблемы з экіпіроўкай: *"Тады мы вельмі рупліва рыхтаваліся да першых у гісторыі краіны Алімпійскіх гульняў. У Ліліхамер мы ляцелі сваім спецсамалётам, і назад нас таксама забіраў чартэрны рэйс. Праўда, былі праблемы з экіпіроўкай. Справа ў тым, што прадстаўнікі фірмы "Адзідас" прывезлі нам форму адразу ў Нарвегію. Усё тады было ў першы раз, прыходзілася вучыцца на хаду. Але чырванець за краіну не прыйшлося, усё прайшло добра".*

Святлана Парамыгіна прыгадвае, што і з яе амуніцыяй былі накладкі: *"Гэта зараз біятланісты выступаюць на новых лыжах. Наша біятлонная зборная, па прызнанні многіх, сёння лічыцца самай добра ўкамплектаванай. А вось на Алімпійскіх гульнях 1994 года мне прыйшлося выходзіць на старт на лыжах, якія я атрымала яшчэ ў зборнай СССР у 1989 годзе... Зараз мае "алімпійскія" лыжы стаяць дома ў куце як рэліквія. Са зброяй справы былі не лепшыя. Мы стралялі са старой зброі іжэўскай вытворчасці. Ад прыстрэлкі да старту асабіста ў мяне праходзіла прыкладна гадзіны паўтары. Зразумела, што на марозе (слупок тэрмометра паказваў каля 20 градусаў ніжэй нуля) зброя замярзала, і кулі на першай стральбе ў спрынце, дзе я заваявала медаль, ішлі ў "малако"..."*

Між іншым, як прызнаецца журналіст **Алена Данільчанка,** якая працавала на той Алімпіядзе, пасля заваявання серабра Святлана Парамыгіна проста свяцілася ад шчасця: *"Напэўна, у той момант у Ліліхамеры не было чалавека шчаслівей, чым Святлана. А вось Ігар Жалязоўскі пасля заваявання сваёй алімпійскай узнагароды хоць і ўсміхаўся, але выглядаў крыху расстроеным. Яго можна было зразумець — шасціразовы чэмпіён свету, які нікому не саступаў на дыстанцыі ў 1000 метраў, фінішаваў другім з-за таго, што падчас бегу крануўся рукой лёду, тым самым згубіўшы некалькі каштоўных імгненняў, якіх яму і не хапіла для заваявання золата".*

Пасля вяртання спартсменаў з Нарвегіі беларускі ўрад доўга не ведаў, як ацаніць вынікі выступлення нацыянальнай каманды на Алімпіядзе. У рэшце рэшт выступленне прызналі добрым. Як расказала Святлана Парамыгіна, за сярэбраную ўзнагароду яна атрымала пэўную грашовую прэмію: *"Тры тысячы ўмоўных адзінак я атрымала прама ў Нарвегіі, а потым, калі мінуў некаторы час, пасля Алімпіяды (напэўна, калі было вырашана прызнаць нашае выступленне паспяховым) яшчэ дадалі прэміяльных. Але выплацілі купюрамі выпуску 1960 года. Я аддала грошы свайму бацьку і сказала, каб ён купіў сабе аўтамабіль. Але гэтыя грошы не хацелі ў яго браць. Дзякуючы таму, што маё прозвішча было на слыху, бацьку прадалі машыну. Гэта, на мой погляд, яскрава паказвае стаўленне, калі не дзяржавы, то асобных людзей да першых алімпійцаў суверэннай Беларусі".*

Дзякуй Богу, не памыліўся тагачасны ўрад Беларусі — прызнаў выступленне спартсменаў паспяховым. Тым больш што гэты вынік — 2 сярэбраныя ўзнагароды — лепшы за ўсю гісторыю выступленняў беларусаў на зімовых Алімпійскіх гульнях.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## «Старухи» ў Мінску

***Пераможца кіеўскага кінафестывалю "Маладосць", прызёр XIV Адкрытага кінафестывалю "Кінотавр", уладальнік прыза X Міжнароднага кінафестывалю "Лістапад" расійскі фільм "Старухи" будзе прадстаўлены беларускім гледачам 3 сакавіка.***

У гэты дзень адбудзецца прэзентацыя гэтай карціны ў двух кінатэатрах горада Мінска — "Цэнтральным" і "Кастрычніку". Прадстаўляць яе будзе сцэнарыст, рэжысёр і прадзюсер фільма Генадзь Сідараў.

Гэты фільм — гісторыя пра бабуль, якія жывуць у рускай вёсцы і, нягледзячы на ўсялякія цяжкасці, любяць жыццё. Рэжысёр-дэбютант для сваёй карціны выбраў непрафесійных выканаўцаў. Падзеі яго фільма адбываюцца ў правінцыі: здымалі фільм пад Кастрамой. У невялікай вёсцы жывуць выключна жанчыны ды яшчэ вясковы дурань.

Для тых, хто жадае трапіць на прэзентацыю, паведамляем: у "Цэнтральным" яна адбудзецца ў 18.30, а ў "Кастрычніку" — у 21.00.

**Наталля ГУСЕВА.**



ДУХОЎНЫ СКАРБ

# Уявіце, што ёй ужо 500 год!!!

У дакуменце, датаваным 1499 годам, пацвярджаецца права Мінска на самакіраванне. У ім жа ўказана на неабходнасць пабудавання ратушы, якая з'яўляецца неабходным атрыбутам вольнага горада і цэнтрам гарадской улады.

Дзе ратуша знаходзілася да 1582 года — невядома, а па дакументах больш позняга часу — на верхнім рынку, дзе і паўстала сённяшняя прыгажуня.

У 1591 годзе мінчане атрымалі шэраг льгот ад караля Сігізмунда III на будоўлю новага мураванага будынка, для *"...падмажэння на тот ратуш, якой яны зараз будаваці хочуць..."*. Прызначэнне ратушы было канкрэтна грамадскім: для пасяджэнняў гарадскога магістрата, захоўвання прынятых у горадзе адзінак меры, правядзення пасяджэнняў гарадскога суда... Асобая роля адводзілася падвалу — у ім месцілася гарадская турма.

Ратуша з'яўлялася галоўнай славутасцю горада, стаяла пасярод плошчы, акружаная мноствам крамаў.

Але гэта працягвалася толькі да 1642 года, калі падчас вайны рускія войскі захапілі Менск і спалілі ратушу з гандлёвымі радамі. На аднаўленай праз некаторы час ужо не было гадзіннікаў.

Пачалося XVIII стагоддзе, і ратушу зноў рэканструявалі. Садзейнічаў гэтаму мінскі войт Станіслаў Буржыцкі, і ў 1744 годзе перабудова была завершана. У стылі класіцызму будынак атрымаўся лёгкім, невялікім, але з вежай, купалам і шпілем з флюгерам.

З часам ратуша мяняла не толькі сваё аблічча, але і функцыі. На мяжы XVIII-XIX стст., з далучэннем да Расійскай імперыі, беларускія гарады ўсё яшчэ захоўвалі сваю незалежнасць, але толькі намінальна. Верхні рынак ператвараецца ў культурны цэнтр. У 1819 годзе ратушу зноў перабудоўваюць. Паводле ідэі губернскага архітэктара Міхаіла Чахоўскага, да яе дадаюць упрыгожаную агароджу і на месцы знесеных гандлёвых радоў разбіваюць сквер, таксама у стылі класіцызму.

Цяпер гэта стала месцам адпачынку. Кожны вечар гучала музыка гарадскога аркестра, які размясціўся ў будынку, пры ім знайшла месца і музычная школа. А ў 40-я гады XIX стагоддзя, па праекце губернскага архітэктара Казіміра Храшчановіча, галоўная зала ратушы была перабудавана пад гарадскі тэатр.

На гэтым, здаецца, і скончылася гісторыя мінскай ратушы, абарвалася аж да нашага часу. У 1851 годзе было прынята рашэнне знесці будынак. Фармальнай нагодай была такая: ратуша, займаючы частку галоўнай плошчы, закрывае сабой новы Петрапаўлаўскі сабор (былую царкву Святога Духа, якая была знесена ў 30-я гады XX ст.) і прысутныя месцы. Указ чамусьці быў падпісаны самім імператарам Мікалаем I у нейкім губернскім горадзе. Як пасля пісаў тагачасны археолаг Міхаіл Гаўсман, ратушу знеслі, "бо яна нагадвала жыхарам пра старадаўнія звычаі, пра магдэбургскае права...".

Пасля гэтага рашэння будынак доўгі час знаходзіўся ў закінутым стане. У 1857 годзе яго канчаткова разабралі, знішчылі сквер і зрабілі вялікі брукаваны пляц, на якім ладзіліся агляды і парады Мінскага ваеннага гарнізона. У 80-х гадах XIX стагоддзя сквер вырашылі аднавіць. Пасадзілі дрэвы, паставілі чыгунныя лаўкі ў стылі ампір, якія спецыяльна заказвалі ў Варшаве. А ў пачатку XX стагоддзя паставілі помнік Аляксандру II. Падчас рэвалюцыі помнік знеслі, толькі пастамент застаўся. На яго месцы ў 30-я гады быў узведзены фантан. У рамантычным стылі, аздоблены скульптурамі яшчэ невядомых аўтараў. Аўтарам фантана быў тагачасны гарадскі архітэктар Герасім Якушка. Фантан захоўваўся да апошняга часу, пакуль не пачалася рэстаўрацыйная праца над ратушай.





*Будынак гарадской ратушы сёння і ў XIX стагоддзі.*

## Муляж у натуральную велічыню ці сімвал волі?

Больш за 120 гадоў пра ратушу замоўчвалі. Упершыню аб ёй успомнілі археолагі ў 1978 годзе, бо паўстала пытанне аб захаванні старой забудовы XVII—XIX стст. На тэрыторыі Верхняга горада раскопкі распачаліся летам 1988 года. І, канешне, праведзеныя археалагічныя даследаванні дазволілі атрымаць новыя звесткі аб ратушы і паставілі пытанне аб аднаўленні помніка.

Архітэктурна-праектная майстэрня ТАА "Трайпл", што працавала па заказу АТ "Стары Менск", прадставіла праект узвядзення ратушы, а таксама прапановы па добраўпарадкаванні і азеляненні тэрыторыі Сабornага сквера з разбурэннем існуючага фантана.

Гэта было выбухам для Таварыства аховы помнікаў. Яны распачалі барацьбу за захаванне хаця б рэшткаў сквера, фантана. Бо аднаўленне ратушы, на якое яны спадзяваліся ўжо доўгі час, аказалася знішчэннем існуючага, аўтэнтычнага помніка пачатку XX ст. Імі былі дасланы лісты ў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, у якіх распавядалася пра значную гіторыка-культурную каштоўнасць сквера і фантана, аб неабходнасці іх захавання.

На вялікі жаль, голас грамадскасці не быў пачуты. Муляж ратушы ў натуральную велічыню пабудаваны! Без узнаўлення ўнутранай планіроўкі. Фантан знішчылі, а добраўпарадкаванне новага сквера парушае гістарычны характар Верхняга горада.

Але як лічаць рэстаўратары-сучаснікі, інтэр'ер плошчы павінен быць прыстасаваным да сучасных патрэб, і яны ўвогуле не ставілі сваёй задачай аднавіць гістарычны інтэр'ер адзін да аднаго.

Ратуша адноўлена, інтэр'ер яе — сучасны, функцыі — таксама сучасныя. Па-першае, гэта прэзентабельны будынак гарадской улады. У ім праведзена першае знакавае мерапрыемства — жараб'ёўка Кубка Дэвіса.

Другая функцыя сённяшняй ратушы — музейная. Мы зможам туды прыходзіць у любыя дні, акрамя тых, якія будуць адведзены да спецмерапрыемстваў. Абяцаюць адкрыць музейную экспазіцыю, дзе можна будзе пазнаёміцца з гісторыяй і архітэктурай Мінска.

З якога боку ні паглядзіш — Мінск займеў мадэрнова-новую ратушу. Нязменнай засталася толькі яе ідэя, а гэта значыць, што яна, ратуша, зноў будзе сімвалам вольнага горада.

**Дар'я ГАЎРЫЛАВА.**
**Фота ByMedia.net**

ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — НЕ ВЕРЦЕ

# Будучы тыдзень: зоркі прадказваюць

**АВЕН.** Дзелавыя партнёры будуць вылузвацца са скуры, каб прыцягнуць да сябе вашу ўвагу. Пастаўцеся да іх спрыяльна. Праўда, дома чакаюць суцэльныя папрокі, аднак сціплыя прэзенты блізкім дапамогуць наладзіць адносіны з імі. Спрыяльны дзень — 5, неспрыяльныя — 2,7.

**ЦЯЛЕЦ.** То пуста, то густа. Вам зробяць шмат прапаноў — займіцеся іх сартыроўкай, аддзяляючы зярняты ад пустазелля. Старайцеся не марнаваць часу на планаванне — зараз лепш плыць па цячэнні. А крывая вывезе вас заўсёды. Спрыяльныя дні — 2,6, неспрыяльны — 4.

**БЛІЗНЯТЫ.** Адна галава добра, а дзве — лепш. Калі вам не ўдасца самастойна разабрацца ў нейкім пытанні, паклічце на дапамогу старэйшых таварышаў. Не грубіяньце начальству — лепей скажыце шэфу штосьці прыемнае. Спрыяльны дзень — 6, неспрыяльны — 7.

**РАК.** Вось пашанцавала, дык пашанцавала! Вы зробіцеся генератарам геніяльных ідэй, навакольныя будуць здзімаць з вас пылінкі. Не судзіце строга тых, хто не ацэніць вашай выключнасці. Яны яшчэ пашкадуюць аб гэтым і хутка ўпадуць да вашых ног. Спрыяльныя дні — 3,6, неспрыяльныя — 1,7.

**ЛЕЎ.** Вам трэба паводзіць сябе асабліва акуратна і карэктна ў стаўленні да навакольных. Старайцеся не ціснуць на дзелавых партнёраў, не прымайце паспешлівых рашэнняў. Спрыяльны час выпраўляць памылкі ў адносінах з блізкімі. Спрыяльны дзень — 5, неспрыяльныя — 4,7.

**ДЗЕВА.** Адзін у полі не воін. Не пытайцеся вырашыць праблемы самастойна, працуйце ў калектыве. Абмяркуйце разам з партнёрамі новыя праекты — вы зможаце ацаніць іх перавагі і недахопы. Наладзьце дома сямейны савет. Спрыяльны дзень — 6, неспрыяльныя — 3,7.

**ШАЛІ.** Усё таемнае калі-небудзь робіцца яўным, а няяснае высвятляецца. Паспрабуйце разабрацца ў складаных пытаннях, але не бярыцеся за вырашэнне чужых праблем. На працы, магчыма, прыйдзецца папрацаваць за сябе і "за того парня". Спрыяльны дзень — 5, неспрыяльныя — 2,7.

**СКАРПІЁН.** Вы зразумееце, што каханне — гэта зараз самае галоўнае. Таму перастаньце гарэць на працы і пачніце наладжваць асабістае жыццё. Зараз вы карыстаецеся поспехам у процілеглага полу. Заводзячы знаёмствы, можаце набыць і апекуноў. Спрыяльныя дні — 1,2, неспрыяльныя — 4,7.

**СТРАЛЕЦ.** Назваўся груздом — палязай у кузаў. Не спіхвайце свае абавязкі на чужыя плечы: наўрад ці навакольныя пастаўяцца да гэтага прыхільна. Верагодны канфлікты з начальствам, не выклікайце шэфа на шчырыя размовы. Спрыяльны дзень — 5, неспрыяльны — 7.

**КАЗЯРОГ.** Надышоў час пашырыць кола зносін — вакол вас могуць з'явіцца вельмі цікавыя і карысныя людзі. Уважлівей стаўцеся да камерцыйных прапаноў, аднак не спяшайцеся прыступаць да іх рэалізацыі. Аддайце старыя даўгі. Спрыяльны дзень — 6, неспрыяльныя — 1,7.

**ВАДАЛЕЙ.** Не жыццё, а казка на гэтым тыдні. Усе гатовыя вам дапамагаць, не адмаўляйцеся ад такіх падарункаў лёсу. Вы настолькі абаяльныя і прыцягальныя, што зможаце дамовіцца з навакольнымі (нават з ворагамі!) па любых спрэчных пытаннях. Спрыяльны дзень — 5, неспрыяльныя — 3,4,7.

**РЫБЫ.** Пастарайцеся жыць па сродках. Устрымайцеся ад буйных набыткаў. Вы будзеце залежаць ад абставін — не пытайцеся штосьці змяніць, вырашайце праблемы па меры іх паступлення. Не бярыцеся за некалькі спраў адразу. Спрыяльныя дні — 1,3, неспрыяльны — 7.

## Понедельник, 1 марта

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 20.00** "Деловая жизнь".
**08.45, 12.10, 16.45, 23.50** "Моя страна".
**09.05** "В центре внимания".
**10.05 "Светские хроники".** Сериал.
**11.05** Путешествие дилетанта.
**11.30** "36,6".
**12.25** Приключенческий фильм **"Последний из могикан".** (США).
**14.20** "Ваше лото".
**15.10** "Время спорта".
**15.35** "Созвездие надежд".
**16.05** "Клип-обойма".
**17.10** "Маски-шоу".
**17.30 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**18.35** "Между прочим...".
**19.05** Сериал **"Мисс Марпл".**
**20.10 "Светские хроники-2".** Сериал.
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Зона Икс".
**22.00** Мелодрама **"Шофер мисс Дейзи".** (США, 1989 г.).

**ОНТ**

**07.00, 09.00, 18.00, 20.30, 22.50** Наши новости.
**07.05** "Наше утро".
**09.05** Контуры.
**09.55** Фильм **"Чикаго".** (США-Канада, 2002 г.).
**11.40** Следствие ведет Колобков.
**15.00** Город женщин.
**16.00** Сериал **"Берег мечты".**
**16.50** "Большая стирка".
**18.10** Жди меня.
**19.05** Сериал **"Клон".**
**20.00** Время.
**21.00** "Выбор".
**21.45 "Улицы разбитых фонарей-5".** Сериал.
**23.05** "Оскар-2004".

**РОССИЯ**

**07.45** Сериал **"Честь имею!..".**
**08.50** "Аншлаг!".
**09.50, 23.25** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**10.20, 19.30** Местное время. Вести-Москва.
**10.50** "Что хочет женщина".
**11.50** "Вокзал". 12-я серия. (Россия, 2003 г.)
**16.10** Сериал **"Люди и тени. Секреты кукольного театра".**
**17.05** Сериал **"Небо в горошек".**
**18.00** Сериал **"Зачем тебе алиби?".**
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.55** Сериал **"Тайны следствия-3".**
**20.55** Сериал **"Женщины в игре без правил".**
**22.00** Вести+.
**22.20** Сериал **"Идиот".**
**23.40** "Дежурный по стране".

**ЛАД**

**06.30** Euronews.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** Провинциальные истории.
**08.35** Сериал **"Проклятый уютный дом".**
**09.35** Наше наследие.
**09.50** Телебарометр.
**10.05** "Между нами, женщинами".
**10.25, 21.15** Сериал **"Грешная Анхелика".**
**11.15** "Обычный необычный день".
**11.45** Киноповесть **"Шляхтич Завальня, или Беларусь в фантастических рассказах".** (Беларусьфильм).
**13.15** "Обычный необычный день".
**13.45** "Шёл трамвай 10-й номер". Мультфильм.
**14.10** Соседи.
**14.35** Мультфильмы.
**15.05** Сериал **"Зеркало, зеркала".**
**15.25** "Не зевай!".
**15.35** Тележурнал "Бум".
**16.05** "Олимпиада". Телеспектакль.
**18.30** "Между нами, женщинами".
**18.50** Сериал **"Большая перемена".** (Мосфильм, 1972 г.).
**20.15** Колыбельная.
**20.30** "Дела семейные".
**22.05** Футбол. Чемпионат Италии.

**НТВ**

**09.00, 11.00, 14.00, 16.00, 18.00** Сегодня.
**09.25** Намедни.
**14.35** "Принцип домино".
**16.30** Сериал **"Она написала убийство".**
**17.35** Протокол.
**18.40** Сериал **"На вираже".**
**19.50** Сериал **"Свободная женщина-2".**
**21.00** Страна и мир.
**21.35** Красная стрела.
**21.45** "Гордон".
**22.50** Сериал **"На вираже".**

**СТВ+RenTV**

**06.25, 15.40 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Сериал.
**06.50** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.30** "168 часов".
**08.20, 23.05** "Технология".
**08.30** "Минск и минчане".
**08.40** "Личный интерес".
**09.20** Комедия **"Натуральная блондинка".** (США, 1997 г.).
**11.00** "Эти эксцентричные люди". Док.фильм.
**11.30** "Анфас".
**11.45** "Телеафиша".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Убить невидимку". Док.фильм.
**13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**13.50 "Тайный знак".** Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или ОБезопасить погруЖение".** Сериал.
**15.15** "Рыцари света". Мультсериал.
**16.00** "Братец Кролик и братец Лис". Мультфильм.
**16.10** "Дом, который построю я".
**17.00 "Вовочка-2".** Сериал.
**17.30 "Агентство".** Сериал.
**18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**18.15** "Арт-экспресс".
**18.30 "Домик с собачкой".** Сериал.
**20.00** "СТВ-спорт".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Кадровый вопрос".
**20.55** Боевик **"Воздушный удар".** (США, 2002 г.).
**23.15** Столичный футбол.
**23.45** "Новости СНГ".
**00.00** Мюзикл **"Янки Дудль-денди".** (США, 1942 г.).
**02.10** "Большая музыка".

**8-Й КАНАЛ**

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45 "Темная территория".** Худ.фильм.
**19.10** "Евромебель".
**19.30** "Африка". Док.сериал.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Телемагазин".
**21.10 "Женщины".** Худ.фильм.

**ТВ ЦЕНТР**

**04.45** "Настроение".
**07.50 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**08.40** Вторая жизнь.
**08.55** Встреча в Доме кино.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 18.50, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.15** "Постскриптум".
**12.10** Опасная зона.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.20** Войди в свой дом.
**14.30** Православная энциклопедия.
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30** Песенка года.
**15.55** Только для мужчин.
**16.25** Прорыв.
**17.15** "Алфавит".
**18.00 "Разлученные".** Сериал.
**18.55** Пять минут деловой Москвы.
**19.00 "Приключения мага".** Сериал.
**20.00** Петровка, 38.
**20.25** Выборы-2004.
**21.45** Особая папка.
**22.20** Времечко.
**22.50** События.
**23.10** Очевидное-невероятное.
**23.45** Большая музыка.

**EUROSPORT**

**09.30** Олимпийский журнал.
**10.00** Горные лыжи.
**11.00** Биатлон.
**11.30** Прыжки на лыжах с трамплина.
**13.00** Футбол.
**16.00** Волейбол.
**16.30** Прыжки на лыжах с трамплина.
**18.15** Футбол.
**19.30** Евроголы.
**21.00** Бойцовский клуб.
**23.15** Футбол.
**00.15** Евроголы.
**01.45** Триал.

## Вторник, 2 марта

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30** "Деловая жизнь".
**09.05** Сериал **"Мисс Марпл".**
**10.10 "Светские хроники-2".** Сериал.
**11.05, 17.25 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10** "Зона Икс".
**12.25** Мелодрама **"Шофер мисс Дейзи".** (США).
**14.15** "Одноклассники".
**15.10** Сериал **"Студенческая жизнь".**
**16.05** "5x5".
**17.05** "Маски-шоу".
**18.30** "Шпилька".
**19.10** Сериал **"Мэрилин Монро".**
**20.00** "Деловая жизнь".
**20.05 "Светские хроники-2".** Сериал.
**21.00** "Панорама".
**21.50** Драма **"Любовные истории леди Гамильтон".** (Франция-Германия-Италия, 1968 г.).
**23.35** "Любой каприз".

**ОНТ**

**07.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.50** Наши новости.
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 19.05** Сериал **"Клон".**
**09.55** Дисней-клуб.
**15.10** "Город женщин".
**16.00** Сериал **"Берег мечты".**
**16.50** "Большая стирка".
**18.10** "Дом".
**20.00** Время.
**21.00** Сериал **"Отель исполнения желаний".**
**21.45** Сериал **"Любительница частного сыска Даша Васильева".**
**22.50 "Улица разбитых фонарей-5".** Сериал.
**00.05** "Не только о футболе".
**00.25** "На футболе".

**РОССИЯ**

**07.45** Сериал **"Тайны следствия-3".**
**08.50** "Короткое замыкание".
**09.50, 23.25** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**10.20, 19.30** Местное время. Вести-Москва.
**10.50** "Что хочет женщина".
**11.50** Сериал **"Женщины в игре без правил".**
**16.10** Сериал **"Люди и тени".**
**17.05** Сериал **"Главные роли".**
**18.00** Сериал **"Зачем тебе алиби?".**
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.55** Сериал **"Тайны следствия-3".**
**20.55** Сериал **"Женщины в игре без правил".**
**22.00** Вести+.
**22.20** Сериал **"Идиот".**
**23.40** Боевик **"Взрывчатка".** (Великобритания-Канада, 2000 г.).

**ЛАД**

**06.30** Euronews.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Есть только миг...".
**08.35** Футбол. Чемпионат Италии.
**09.40** "Пой, душа!".
**10.05** "Между нами, женщинами".
**10.30, 21.15** Сериал **"Грешная Анхелика".**
**11.15** "Обычный необычный день".
**11.50** Сериал **"Большая перемена".**
**12.55** "Обычный необычный день".
**13.20** Мультфильмы.
**14.10** "Не зевай!".
**14.50** "Три зятя". Мультфильм.
**15.05** Сериал **"Зеркало, зеркала".**
**15.30** "Не зевай!".
**15.40** Тележурнал "Бум".
**16.10 "Неизвестный Наполеон".** Сериал.
**16.35 "Багряная трава".** Киноновелла. (Беларусьфильм. 1982 г.).
**17.05** "Ностальжи".
**17.35** Сериал "Приключения Шерлока Холмса".
**18.25** "Между нами, женщинами".
**18.45** Сериал "Большая перемена".
**20.15** Колыбельная.
**20.30** "Дела семейные".
**22.05** Сериал **"Проклятый уютный дом".**

**НТВ**

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** Сегодня.
**09.25** "Дикий мир".
**10.20** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30** Сериал **"Она написала убийство".**
**17.35** Протокол.
**18.40, 22.50** Сериал **"На вираже".**
**19.50** Сериал **"Свободная женщина-2".**
**21.00** Страна и мир.
**21.35** Красная стрела.
**21.45** Сериал **"Без следа: пропавшая невеста".**

**СТВ+RenTV**

**06.15, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.25, 15.40 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Сериал.
**06.50** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50** "СТВ-спорт".
**08.15** "Технология".
**08.25** Столичный футбол.
**08.55** "Добро пожаловаться...".
**09.10** Боевик **"Воздушный удар".** (США, 2002 г.).
**10.50** "Эти эксцентричные люди". Док.фильм.
**11.30** "Пока горит свеча".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Тайна обреченных самолетов". Док.фильм.
**13.50 "Домик с собачкой".** Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или ОБезвредить Живодера".** Сериал.
**15.15** "Рыцари света". Мультсериал.
**16.00** "Бумажный змей". Мультфильм.
**16.10** "Кадровый вопрос".
**17.00 "Вовочка-2".** Сериал.
**17.30 "Агентство".** Сериал.
**18.15** "Здравствуйте, доктор!".
**18.30 "Домик с собачкой".** Сериал.
**20.00** "СТВ-спорт".
**20.15** "Тема дня".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Закон и криминал".
**20.55** Фантастический фильм **"Гладиатор-2000".** (Канада, 1998 г.).
**23.05** "Горячий лед".
**23.35** "Технология".
**23.45 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.30** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45** Драма **"Дорогая Елена Сергеевна".**
**19.10** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**19.30** Сериал **"Приключения Шерлока Холмса". "Знакомство".** 1-я серия.
**20.40** "Телемагазин".
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Евромебель".
**21.10** Боевик **"Солдат Джейн".**

**ТВ ЦЕНТР**

**05.00** "Настроение".
**07.45** Газетный дождь.
**07.55 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**08.45 "Приключения мага".** Сериал.
**09.40** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.05** "Момент истины".
**12.05** Доходное место.
**12.10** "Петровка, 38".
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.20** Как добиться успеха.
**14.30** Я - мама.
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30** Идущие вперед.
**16.00 "Тайны Ниро Вульфа".** Сериал.
**17.15** Очевидное - невероятное.
**18.00 "Разлученные".** Сериал.
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.00** Лицом к городу.
**20.00** "Петровка, 38".
**20.25** Выборы-2004.
**21.40** Материк.
**22.25** Времечко.
**23.00** 25-й час. События. Время московское.
**23.20** Серебряный диск.
**23.40** Сериал **"Воспоминания длиной в век".** (США, 1994 г.).
**00.40** "Синий троллейбус".

**EUROSPORT**

**09.30** Экстремальные виды спорта.
**10.00** Волейбол.
**10.30** Прыжки на лыжах с трамплина.
**12.00** Настольный теннис.
**14.00** Футбол.
**15.00** Хоккей на траве.
**16.30** Евроголы.
**17.30** Футбол.
**18.00** Настольный теннис.
**20.00** Футбол.
**21.00** Бокс.
**00.00** Олимпийский журнал.
**01.00** Автогонки.
**01.30** Экстремальные виды спорта.

